# Наш Магілёў

Грамадска-палітычная незалежная газета горада № 53(15), снежань 2010 года

# ШТО БУДЗЕ ПАСЛЯ ВЫБАРАЎ?

*Вітольд НЯЎРЫДА*

**Гэтым пытанне задаюцца не толькі магілёўцы, але і ўсе беларусы, навучаныя тым, што Беларусь належыць да краіны форс-мажораў. Гэта азначае, што ты не ведаеш, што адбудзецца заўтра, бо ад цябе па-просту стойваюць інфармацыю і нічога не залежыць.**




Так было і ў 2008 годзе, калі наш нязменны Прэзідэнт заяўляў пра тое, што ў краіне крызіса няма, але калі адбыўся адначасовы абвал беларускай валюты амаль на 25% за адзін дзень, то ўсе зразумелі, што крызіс дабраўся і да Беларусі і міт пра беларускі вастраў дабрабыту развеяўся ў адно імгненне.

Адна справа, калі валюта абясцэньваецца паступова - людзі пачынаюць прыстасоўвацца да гэтага і планаваць што рабіць са сваімі фінансамі - адкуль іх забраць, куды іх укласці, што прадаць і што на іх купіць, каб не застацца ў стратах. Другая справа - калі ты становішся ў адно імгненне банкрутам, альбо нясеш істотныя для сябе страты. І віной усяму гэтаму не сусветны крызіс, а чыноўнікі, якія адмаўлялі яго і ўсялякімі магчымасцямі хацелі яго адтэрмінаваць, даючы грамадзянам хлуслівую інфармацыю.

Так, адной з самых неабароненых груп людзей падчас абвалу валюты аказаліся грамадзяне, якія ўзялі выгадны па іх мерках крэдыт у замежнай валюце - далярах ці эўра і якія застагналі праклінаючы ўсё і ўсіх на свеце, калі дазналіся, што плаціць ім па крэдыту трэба яшчэ, скажам, на 25% больш, а заробак знізіўся адпаведна на такую ж лічбу. Разарылася шмат дробных і сярэдніх фірмаў.

Другія, маючы грошы, кінуліся скупаць усё і ўся ў надзеі потым перапрадаць набытыя імі тавары. Адзін мой знаёмы, уладальнік крамы па продажу бытавой тэхнікі ў Шклове, у першы месяц пасля крызісу зрабіў шматмесячны абарот, бо непаспяваў прывожаць тэхніку, як яе раскупалі. А ў наступным месяцы быў вымушаны зачыніць сваю краму, бо ні адзін чалавек за некалькі тыдняў не купіў нічога і аказалася, што ўтрымліваць яе не выгадна. Людзі паддаліся панічным успамінам пачатку і сярэдзіны 90-х гг. мінулага стагоддзя, калі з прылаўкаў зметалася ўсё. Але тады на прылаўках амаль і нічога не было. Гэта зараз сістэма паставак прадукцыі ў крамы адладжана і калі людзі раскупяць нешта сяння, то амаль са 100% упэўненасцю можна сказаць, што гэты тавар з'явіцца зноўку заўтра на прылаўку. Абы толькі грошы былі, каб яго купіць.

Пасля выбараў, можна чакаць чарговых сюрпрызаў. Другога туру выбараў не будзе, бо дата другога тура прыпадае на 2 студзеня, а народ наш звычайна становіцца цвярозей толькі пасля старога Новага года і гэтую дату па-просту не зразумее. Улічваючы тое, што па дадзеных сацыялагічных апытанняў, якія праводзіцца Адміністрацыяй Прэзідэнта і ім жа агучаныя Аляксандр Лукашэнка атрымае не менш 75% галасоў выбаршчыкаў. Гэта не сюрпрыз. Сюрпрыз будзе тады, калі яго месца займе нехта іншы.

Яшчэ адзін сюрпрыз будзе пасля Новага года, бо плануецца падаражэнне камуналкі на 20%. Пасля выбараў будзе падпісвацца пагадненне з Расіяй на пастаўку нафты і газу ў Беларусь і вызначацца кошты на гэтыя сыравіны. Тое, што яны будуць узвышаны - гэта факт. Тут магчымы сцэнар чарговай "нафта-газавай вайны" і істэры з экрана тэлевізара.

Істэрычным будзе і ўвесь наступны год, бо сістэма выбудаваная Лукашэнкай сутыкнулася з велізарнай праблемай - яна сябе вычарпала і каб выйсці на новы ўзровень жыццядзейнасці гэтай сістэмы трэба мяняць кардынальным чынам яе фундаментальныя асновы. Калі іх не мяняць - крах сістэмы, бо яна сама сябе загубіць. Калі іх мяняць - таксама крах сістэмы, бо ў мадэрнізаванай эканамічнай сістэме рэжыму будзе адведзена значна меншая роля і здольнасць кантраляваць усё знікне.

У любым выпадку Выбары-2010 і Новы год - гэта кропкі адліку палітычнай смерці дзеючай улады. Таму можна смела чакаць форс-мажораў і сюрпрызаў.

У аднаго расійскага алігарха, запыталі: чаго ён, калі любіць Расію, жывець за мяжой, на што ён адказаў, што любіць жыць у краінах з устаяўшайся дэмакратыяй, абароненай ад дэфолтаў, інфляцый, дэнамінацый, тэхнагенных катастроф і г.д. Хочацца спадзявацца, што хутка і Беларусь пераживець сваю аўтакратыі і стане нармальнай, цывілізаванай еўрапейскай краінай, абароненай ад форс-мажораў.

# Как Лукашенко инфляцию усмирял

***Вадим Ливнев, "Солидарность"***

**На четвертом всебелорусском народном собрании глава государства много говорил об экономических успехах, достигнутых за последние годы. Почему Лукашенко умолчал о достижениях в борьбе с инфляцией, "Салідарнасць" рассказывает в рамках проекта "Сказано - сделано?"**

В самом конце минувшей недели Национальный статистический комитет обнародовал экспресс-информацию об основных показателях социально-экономического развития за январь-ноябрь 2010 года. Согласно официальным данным, за 11 месяцев инфляция составила 8,9%.

Можно уверенностью прогнозировать, что по итогам года планка в 10% будет превышена. А что на сей счет обещал Александр Лукашенко?

Открываем его предвыборную программу образца 2006 года. В этом документе сказано четко и безапелляционно: "Снизить инфляцию до уровня не более чем 5 процентов в год".

Подтвердил Лукашенко эти планы и на третьем всебелорусском народном собрании: "Инфляция должна быть снижена до уровня не более 5 процентов в год".

Кстати, по итогам 2005 года цены, согласно официальным данным, выросли ровно на 8%. Так что, задача выглядела вполне реальной. Но...

Получается, что укрощение инфляции провалено: в нынешнем году она будет на четверть выше, чем пять лет назад, и вдвое больше запланированного.

К этому имеет смысл добавить и еще одно наше достижение. По итогам последнего десятилетия Беларусь является абсолютным лидером по росту цен среди европейских стран.

Неудивительно, что Александр Лукашенко скромно умолчал на всебелорусском народном собрании о своих "успехах" в борьбе с инфляцией...

**РЭДАКЦЫЙНАЯ ПОШТА**



**Сутыкнуліся з праблемай і не ведаеце да каго звярнуцца? Пішыце нам - мы паспрабуем дапамагчы Вам!**

Магілёў, вул. Ленінская, 29, оф. 315,
e-mail: nash_mogilev@tut.by

# Семейный подряд

*Пан Тадэуш*

**Номер за номеров в заводской газете ОАО "Могилёвхимволокно" "Трудовая слава" красуется заводской клан Пузевичей. И не дивно, ведь генеральным директором предприятия является Сергей Пузевич, его отец - начальник управления по социальной работе Михаил Пузевич, а его племянник Юрий Пузевич коммерческий директор предприятия по производству рапсового масла в г.Чаусы Могилёвской области.**



Кроме этого кумов, сватов, свояков и близких родственников не перечесть и когда меряются связями в первую очередь спрашивают "Ты чей будешь?" Это особенно актуально в конфликтных ситуациях, ведь это может стать краеугольным камнем в принятии решения.

Интересным является тот факт, что перед тем как Сергей Пузевич занял кресло депутата, ему нагрел его на этом же избирательном участке его отец Михаил Пузевич. Кроме этого, Сергей Пузевич делегат на четвёртое Всебелорусское народное собрание.

"У генерального директора Сергея Пузевича ярковыраженые амбиции, - говорит бывшая сотрудница предприятия "Могилёвхимволокно" Наталья Зайцева, - думаю, что он планирует не долго задерживаться на своём директорском кресле, а стартануть в более высокие круга, поэтому и создаёт себе имидж успешного и заботящегося человека через заводскую газету "Трудовая слава"".

Наталья отмечает, что за пафосными заголовками статей, которые показывают человека с лучшей стороны, припрятана его сущность, которая с родни действующему режиму и заключается в безразличии к человеческим проблемам и их игнорировании.

"Несколько раз я пыталась попасть к нему на приём, чтобы попытаться решить проблему своей "хрущёвки", ведь сколько лет в нашем доме течёт крыша, затапливает подвал, ремонта нет ни косметического, ни капитального, стены сыреют и покрываются плесенью и никто помочь в решении данной проблемы нам не может. Сергей Пузевич, будучи депутатом, просто прячется от нас и всякими способами не пускает меня и мою соседку к себе на приём - ведь у нас реальная проблема, которую за один телефонный звонок не решишь - здесь нужно работать, а этого делать на благо жителей района он не спешит - возможно метит выше и ему уже не до людских проблем".

Наталья Зайцева отмечает, что за несколько лет её активности у Михаила Пузевича на неё накопилась целая папка-досье, куда он собирает факты, которые касаются не только её активности, но и личных фактов из жизни активистки.

"Тем не менее я сдаваться не собираюсь - есть депутат, допустим даже избранный, а не назначенный - так работай! Не хочешь работать и помогать нам - зачем ты нам тогда нужен? Если в ближайшее время мы не добьёмся ответа на вопрос куда идут наши деньги из отчислений на капремонт и кто виноват в том, что капремонта нет в нашем доме 40 лет, то инициируем процедуру отзыва депутата", - говорит Наталья Зайцева.

# Больше всех Лукашенко нравится его конкурент из БНФ Костусев

*interfax.by*

**Президент Беларуси Александр Лукашенко призвал делегатов Всебелорусского народного собрания не поддаваться на провокации оппонентов власти, которые иронизируют по поводу проведения форума.**



– Заметил, что очень грамотно, патриотично оправдываются наши делегаты за форум перед теми, кто пытается его критиковать, называя его чуть ли съездом КПСС и т.д. Спасибо им (оппозиционерам) большое. До съезда КПСС нам еще далеко, до него мы еще не дотягиваем, но такая оценка нас вдохновляет, – заявил А.Лукашенко во вторник, выступая на собрании.

Глава государства попросил делегатов собрания не оправдываться перед оппонентами власти. «Вы прекрасно понимаете, чего они хотят. Помните только одно и одну неоспоримую вещь: у нас действительно жесткая система власти. И в этой системе власти определяющую роль играет глава государства», – сказал Лукашенко.

При этом он добавил: «Буду я главой государства или кто-то другой, но ни в коем случае мы не должны уходить от подобных мероприятий».

– Я не хочу сказать, что вы, приехав сюда, можете силой навязать президенту какие-то вещи. Но я не думаю, что у нас будут глупые президенты, которые не прислушаются к советам с мест. Таким образом, вы воспитываете президента, – отметил глава государства.

По его словам, подобные мероприятия «вдохновляют».

– Чиновников тоже надо вдохновлять, мы - тоже люди, и если у нас есть настроение, то страна богаче будет, – заявил глава Беларуси

Глава Беларуси Александр Лукашенко самым честным из всех кандидатов в президенты называет кандидата от партии БНФ Григория Костусева.

– Среди них нет разницы. Они все одинаковые. Самые честный там – это представитель БНФ Костусев, – заявил Лукашенко, выступая с заключительным словом на Всебелорусском народном собрании.

По мнению президента, кандидат от БНФ «честно себя ведет и понимает, что супернационализм уже ушел».

# Хто пераможа: касцёл ці «Пятруха»?



*Паводле mahilou.org*

**У сераду, 8 снежня 2010 г., у актавай зале Магілёўскаага абласнога краязнаўчага музея адбылася сустрэча з старшынём ГА "Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры" Антонам Астаповічам. Тэма сустрэчы: "Абмеркаванне магчымай забудовы часткі гістарычнага цэнтра г. Магілёва, на якой знаходзіліся касцёл Св. Ксаверыя і гатэль "Францыя".**

Сустрэчу наведалі як звычайныя магілёўцы, так і прадстаўнікі гарвыканкама. Арганізаваць яе дапамаглі Магілёўская гарадская арганізацыя Таварыства беларускай мовы і Магілёўская абласная арганізацыя Таварыства аховы помнікаў.

Мерапрыемства было прысвечана вельмі праблемнаму для горада пытанню – перспектыве забудовы тэрыторыі па вул. Першамайскай насупраць драматычнага тэатра, на месцы знаходжання езуіцкага касцёла Св. Ксаверыя і гатэлю "Францыя". Нагадаем, што прыкладна на гэтым месцы СЗАТ "Серваълюкс" плануе пабудаваць адміністрацыйны будынак, а зусім нядаўна ў Магілёўскім гарвыканкаме адбыліся грамадскія слуханні па гэтым пытанні.

У ходзе сустрэчы А. Астаповіч падрабязна распавёў пра розныя аспекты згаданай праблемы, зрабіўшы акцэнт на парушэннях заканадаўства аб ахове спадчыны, якія могуць узнікнуць пры непрадуманым асваенні дадзенай тэрыторыі.

"Гістарычны цэнтр горада Магілёва – гэта комплексная гісторыка-культурная матэрыяльная нерухомая каштоўнасць, на якой заканадаўствам у сферы аховы гісторыка-культурнай спадчыны не прадугледжваецца ўзвядзенне новых будынкаў", – адзначыў старшыня Таварыства аховы помнікаў.

Акрамя таго, найперш на гэтай тэрыторыі павінны быць праведзены комплексныя навуковыя вышуканні, вынікам якіх павінен стаць падрабязны гісторыка-архітэктурны апорны план. Далей сп. Астаповіч паведаміў, што ўжо звярнуўся ў гарвыканкам з просьбай аб спыненні праектавання адміністрацыйнага будынку па замове СЗАТ "Сервалюкс" на дадзенай тэрыторыі, і падзякаваў прадстаўнікам выканаўчай улады за ініцыятыву абмеркаваць складаную і няпростую праблему на грамадскіх слуханнях.

Таксама Антон Астаповіч паабяцаў у хуткім часе прадаставіць распрацаваны сябрамі Таварыства аховы помнікаў інвестыцыйны праект па аднаўленні будынкаў касцёла Св. Ксаверыя і гасцініцы "Францыя".

Агульная выснова, якую можна зрабіць пасля заканчэння сустрэчы, наступная: ансабль сённяшняй Тэатральнай плошчы можа быць арганічна дапоўнены толькі пры аднаўленні касцёла Св. Ксаверыя (з выкарыстаннем гэтага збудавання пад канцэртную залу і музейную экспазіцыю ў сутарэннях) і будынка былой гасцініцы "Францыя", які таксама павінен выконваць культурна-асветніцкія функцыі. Пабудова адміністрацыйнага будынка на згаданай тэрыторыі недапушчальная, таму што яна парушыць ансамбль Тэатральнай плошчы як па знешнім выглядзе, так і па функцыянальным прызначэнні. Калі ж на аднаўленне помнікаў архітэктурнай спадчыны Магілёва пакуль няма сродкаў, найлепшым варыянтам застаецца захаваць статус-кво і пакінуць гэтае пытанне наступным пакаленням магілёўцаў.

*Дайджест от Яна Грылевича*

## Сквоттеры захватили лондонский особняк стоимостью 6 миллионов фунтов

В Лондоне около десятка молодых людей незаконно заселились в особняк стоимостью 6 миллионов фунтов, расположенный в районе Мейфейр, одном из самых престижных в городе. Сквоттеры, называющие себя группой "Da!", отказываются покидать здание, сообщает The Guardian. Теперь 30 с лишним комнат этого шестиэтажного здания заполнены спальными мешками, матрасами, одеждой и неоконченными картинами.

## Американцы вооружатся винтовками с радиоуправляемыми пулями

Американская армия в скором времени получит на вооружение новую винтовку, больше напоминающее оружие из компьютерной игры. Винтовка XM25 (полное название XM25 Counter Defilade Target Engagement System) использует радиоуправляемые "умные" пули, которые взрываются по достижении заданного расстояния. Таким образом, с ее помощью можно уничтожить противника, например, спрятавшегося за укреплением.

## В глазах Моны Лизы прочли код

Знаменитая "Мона Лиза" Леонардо да Винчи уже давно привлекает внимание любителей тайн. На этот раз представители итальянской организации National Committee for Cultural Heritage заявили о том, что им удалось увидеть в глазах Моны Лизы буквы и цифры.

"Если смотреть на портрет невооруженным глазом, то эти символы заметить невозможно", - говорит президент организации Сильвано Винцети. - "Они становятся видны, когда смотришь на изображение под микроскопом".

По словам исследователей, в правом глазу можно увидеть литеры "LV", которые могут являться первыми буквами имени Леонардо да Винчи. В левом глазу Моны Лизы представители NCCH также заметили некие обозначения, однако эти символы различить сложнее, сообщает The Telegraph.

# Залатает ли дыру в бюджете приватизация крупных предприятий?

*Геннадий КОСАРЕВ, Владислав ПРОТАСКИН, "Завтра твоей страны"*



**Ни один промышленный гигант не значится в плане приватизации на ближайшие три года. Пока чиновники говорят о приоритетах для национальной экономики, эксперты утверждают, что без продажи "фамильного серебра" ни о какой ее модернизации не может быть и речи.**

О том, что в перечне нет крупных предприятий, сообщил председатель Государственного комитета по имуществу Беларуси Георгий Кузнецов.

- Возможно, сработала критика по поводу того, что для поддержания курса рубля правительство начинает продавать "фамильное серебро", -- предполагает экономист Сергей Чалый. -- Видимо, чиновники на это отреагировали и хотят показать, что основные предприятия мы оставим за собой, будем продавать по-своему, например, на аукционах.

### Без продажи крупных предприятий не обойтись

Как полагает Сергей Чалый, в принципе, приватизацию крупных предприятий можно и не проводить.

- Однако если считать приватизацию мерой структурной перестройки экономики, уменьшения государственного сектора за счет увеличения частного для повышения эффективности, а не просто способом добыть деньги, то без продажи крупных предприятий не обойтись, -- убежден эксперт.

### Акционирован будет почти весь реальный сектор экономики

Сергей Чалый полагает, что сейчас речь идет, скорее, не столько о плане приватизации, сколько о разгосударствлении республиканских унитарных предприятий и преобразовании их в открытые акционерные общества, где "все акции все равно принадлежат государству, а потом их действительно можно продавать инвестору".

В течение ближайших трех лет в Беларуси планируется акционировать более 500 предприятий. В результате, поделилась планами на XIII Минском форуме директор Фонда государственного имущества Наталья Жерносек, "будет реформирован практически весь реальный сектор экономики, за исключением объектов, обеспечивающих энергетическую безопасность и газоснабжение страны".

По данным специалиста, в этом году будет завершено акционирование трех субъектов хозяйствования: "Беларуськалия", "Гомельтрнаснефти Дружба" и Новополоцкого предприятия по транспортировке нефти "Дружба", а также предприятий станкостроительной промышленности, на базе которых впоследствии будет создан холдинг.

### Средние и малые предприятия государство готово отдать инвестору

Планы Госкомимущества и руководства страны - это разные планы, утверждает руководитель Научно-исследовательского центра Мизеса Ярослав Романчук.

- В Беларуси решения по крупным предприятиям и финансовым структурам принимаются вне зависимости от того, что написано в плане приватизации, -- считает эксперт. -- К тому же, как показывают примеры с "Белпромстройбанком", переговоры по поводу "Беларуськалия", без приватизации крупных предприятий едва ли в Беларуси можно будет закрыть "дыры" в бюджете и платежном балансе. Вообще для бюджета нужны продажи на сумму до 5 миллиардов долларов в год. У нас в год потребность в краткосрочных кредитах до 10 миллиардов долларов -- это тоже "дырка", которую нужно будет закрывать.

Однако Наталья Жерносек предлагает подходить к процессу приватизации крупных предприятий избирательно:

- Нужно выбрать, насколько наш производитель является приоритетом для национальной экономики. Скажем, отвечает ли конкурентным требованиям продукция "Атланта" или "Горизонта" и должны ли мы сохранить национальное предприятие, -- высказывает свою точку зрения директор Фонда государственного имущества.

Например, на Минском часовом заводе, куда недавно пришел швейцарский инвестор, одним из основных условий приватизации было сохранение торговой марки "Луч".

- Нормальное это требование, потому что марка этих часов - это тоже национальная принадлежность, -- аргументирует Наталья Жерносек.

По ее мнению, необходимо сохранить национальные приоритеты в валообразующих, стратегически значимых отраслях экономики.

А вот в том, что касается средних и малых предприятий государство готово отдать приоритеты инвестору. Единственным условием является вложение инвестиций, модернизация производства.

- Мы хотим, чтобы туда пришли модернизация, перевооружение и более современные условия организации труда, -- перечисляет Наталья Жерносек. -- Не секрет, что наши средние и малые предпрятия - это не только вчерашний, но и позавчерашний день.

### Андрей Тур: "Но не всё покупают"

По определению Ярослава Романчука, "Беларусь проспала приватизацию 2007 года", когда активы стоили гораздо дороже. Сегодня же не только белорусские предприятия, но и активы стран Западной и Центральной Европы "стоят совершенно другие деньги".

- Сейчас нет смысла ждать пять лет до следующего цикла подъема. Нужно оценить, какие собственности будут более эффективными в плане управления и капитализации, как нашей земли, так и наших активов, банков, финансовой структуры, -- отмечает Ярослав Романчук.

По глубокому убеждению эксперта, именно частный капитал: и белорусский, и западный, и восточный - может провети модернизацию гораздо эффективнее, потому что в условиях неопределенности и больших рисков частники принимают более точные решения в рамках собственных ресурсов, нежели государство.

В то же время заместитель министра экономики Андрей Тур возражает Ярославу Романчуку, что "приватизация ради приватизации - это не цель и не инструмент". Государство ставит перед собой задачу за пять лет создать 1 миллион рабочих мест и чтобы производительность на каждом из них была не 23 тысячи долларов, как сейчас, а, как минимум, 50 тысяч долларов на одно рабочее место.

- Мы очень заинтересованы в том, чтобы наши предприятия покупались и на их месте создавались эффективные производства нового типа. Но не всё покупают. Здесь много есть проблем с точки зрения и рисков, и других аспектов, -- заключает замминистра.

Один из аспектов - требование к инвестору по сохранению рабочих мест на предприятии или создание условий для трудоустройства сокращенного персонала.

-- Да, это тоже недостаток белорусской экономики, когда в сфере производства занято очень много людей, а мы говорим об инновационном развитии, автоматизации, модернизации производства, что предполагает сокращение рабочей силы, -- признает Наталья Жерносек.

Она приводит пример закредитованного Барановичского хлопчато-бумажного объединения. На предприятии 6,5 тыс работающих. 4,5 тыс -- это женщины, среди них одинокие и с детьми. Предприятие очень сложное в плане поставок сырья, организации производства.

- Без реструктуризации там никакая приватизация не поможет, -- таково мнение директора Фонда государственного имущества. -- Мы должны инвестору честно сказать, что он не может просто так 6 тысяч выставить на улицу и оставить 400 человек для работы.

Как отмечает Наталья Жерносек, государство возьмет на себя часть проблем трудоустройства этих людей, в случае если инвестор предложит вариант развития этого предприятия, который позволит затем эти средства найти.

Ліст у рэдакцыю

# ЗГУБІЛІ ТОЛІКА

**(непрыдуманная гісторыя)**

*Андрэй Мяцельскі*

У адзін з вечароў нам патэлефанавалі.

Ніхто адразу не зразумеў як мой бацька выйграў пуцёўку ў Егіпет. Гэты неверагодны цуд і незвычайны выпадак адчула ўся наша сям'я.

А здарылася гэта так - на прадпрыемстве, дзе працаваў бацька, на працягу амаль паўгода ладзілі апытанне, - хто самы лепшы працаўнік? Бацька мой, сапраўдны майстар сваёй справы, працаваў з жалезам як выдатны мастак з фарбамі. З любога кавалка жалеза ён мог зрабіць неверагодныя, прыемныя воку выявы. Выраблаў ён завесы, замкі, ключы, нажы, мог падлатаць якую-небудзь каструлю, не кажучы пра гайкі, балты ды шпунты. Талент талентам, але ж пра такое дзіва як пуцёўка ў Егіпет, бацька нават у сваім самым салодкім сне не мог прысніць. Хоць і гуляў ён ў "Суперлато" кожную нядзелю, ашчаджая са свайго бюджэту ў бюджэт дзяржаўны, ён спадзяваўся выйграць хай не кватэру, дык мо грошы на каня ці казу, але выніка не было аніякага. А тут раптам пуцёўка ў Егіпет, ды яшчэ і адтуль, адкуль яе менш усяго чакаў.

Пуцёўку бацька атрымаў на дваіх. Хто будзе другім - было адназначна вырашана на прадпрыемстве. Ім аказалася яго жонка і мая маці.

Маці, пасля пахавання бабулі, вырашыла застацца ў вёсцы. Яна хацела зберагчы бабулін дом, каб ён заставаўся пад наглядам. Пры ім засталася і нейкая жыўнасць: сабака, два каты, дванаццаць кур з пеўнем і шноўдаючыя па норах пацукі. Жаданне зразумелае, а тут пуцёўка ў Егіпет. Што рабіць? Альбо адмовіцца ад гэтага Егіпта, альбо згадзіцца на яго!? Простае пытанне аказалася ў вырашэнні далёка непростым і нечаканым, як Пярун з небу.

Гадоў бацькам больш за паўвеку, здароўе ўжо не тое, ды і трэба ўжо зрабіць перапынак у працы, які ў кожнага нармальнага чалавека павінен быць. Калі яшчэ выпадзе такі шанец? Трэба ляцець. Часам, трэба глядзець на свет не толькі праз прызму куратніка ды сабачай будкі, але і праз вакно самалёта ды добрага гатэля другой краіны. Пачуўшы мае аргументы і пасля доўгіх разважанняў маці вырашыла ляцець.

Зразумела, уся матчына гаспадарка лягла на мае плечы, а кватэра ў горадзе - на плечы маёй жонкі.

Скажу вам, мой першы дзень у вёсцы не стаў занадта прывабным, але ж ён быў і нядрэнным. Як і наракала мне маці, я зранку натапіў печ, прыгатаваў сняданак усім хатнім і нахатнім жывёлам, пратапіў стаяк, насасіў вады ды дроў. Пасля ўсяго гэтага прачысціў дарожкі ад снегу. Удзень падсыпаў куркам зерне і прынёс ім цёплай вады. Увечары запёр курак, падрыхтаваў у хляве ложак са старой коўдры для катоў, даў паесці сабаку.

Кожны дзень спіс маёй працы з невялікімі адступленнямі паўтараўся.

Усё было б добра, калі б не адна акалічнасць: загадала мне маці, апрача дагляду за сваёй гаспадаркай, яшчэ назіраць за гаспадаркай суседа - дзядзькі Толіка, а таксама і за ім самім, каб не напіўся. Адразу скажу, справа гэта аказалася ня з лёгкіх.

Нездарма кажуць, што панядзелак дзень цяжкі. Тым больш у вёсцы, куды аўталаўка прыязджае менавіта ў гэты дзень і прадае не толькі батоны ды масла. На сяле галоўны прадукт - гарэлка. Вось і дзядзька Толік прытрымліваўся гэтай думкі. У гэты ж дзень ён узяў мех, у які клаў бульбу, і набіў яго гаручымі прыпасамі пад завязку. Паклаў у мех столькі, колькі здолеў несці і пайшоў да хаты разважаць пра сялянскі лёс. У наступныя тры дні не толькі дзядзька Толік, але і ўся вёска разам з ім разважала пра цяжкі лёс селяніна. На чацьвёрты дзень гоман сціх і святло ў яго доме не запалілася ні зранку, ні ў вечары. Як вынік, я быў вымушаны пайсці ў адведкі: паглядзець ці дома дзядзька Толік, а калі не, пакарміць дзядзькіну жывёлу.

Прадчуванні спраўдзіліся. Дзядзька Толік знік. Прытым знік разам з канём. На вуліцы снегу з паўметры, а дзядзькі Толіка з канём і возам няма. Па следзе не знойдзеш - усё замяло, а куды гэтая сялянская душа раптоўна вырашыла паехаць, здагадацца было цяжка.

Каб знайсці дзядзьку Толіка, прыйшлося наведаць амаль кожную хату ў нашай вёсцы, але гэта не дало выніку. Дзядзька не з'явіўся і назаўтра. Прыйшлося тэлефанаваць ягоным родным і тлумачыць, што згубілі дзядзьку Толіка. Далей, засталося толькі чакаць.

Разам з дзядзькай Толікам прапаў і адзін з маіх катоў, Бонік. Справа нядобрая, бо ката які знік вельмі любіць мая маці і жонка. Я ўзяў запалкі ў рукі ды пайшоў шукаць ката. Зноўку абыйшоў амаль усю вёску, а толку аніякага. Раптам бачу, пры дзядзькіным ганку запалілася святло. Я куляй туды. Дзядзька Толік з'явіўся! Сам увесь ружова-сіні, рукі калоцяцца, саскрабае лёд са свайго "баявога" каня такога ж колеру як і сам. Ад радасці што знайшоўся дзядзька Толік я ўжо і пра ката забыўся. Шукаў, бачыце, Боніка, а знайшоў дзядзьку Толіка.

Што датычыць ката, то ён пад раніцу прыйшоў дадому, залез на печ і амаль цэлы дзень там грэўся.

Бацькі вярнуліся праз тыдзень задаволеныя, засмуглёныя і акрылённыя шчасцем. Ні было ў Егіпце ні Толіка, ні коніка, ні нават Боніка. Быў толькі пакой на душы, свежае паветра, блакітныя неба з морам ды яскравае сонца.

Мне падалося, што бацька і маці вярнуліся адтуль іншымі людзьмі, нейк унутранна багацейшымі і па-сапраўднаму шчаслівымі.

Кожны чалавек жадае знайсці свой Егіпет, калі не за мяжой, то можа ў суседняй вёсцы. Адзін ляціць на самалёце ў Егіпет, а іншы едзе на кані, прычым, неглядзячы на самы люты мароз і глыбокі снег. Усім нам хочацца простага чалавечага цяпла ды шчасця і ў кожнага з нас свой падыход да гэтага, і як вынік - у кожнага свае ўспаміны.

Фельетон

# ЦАР І ПРЫШЭЛЬЦЫ

*Андрэй Крутагорскі*

**Далёка-далёка за морамі і акіянамі жыўбыў цар. Да чаго забабонным быў гэты цар - свет не бачыў. Бывала, пройдзе чорны кот праз Галоўную Царскую браму - дык цар увесь тыдзень нікуды не ездзіць. Баіцца, што з ім бяда здарыцца.**

Убачыць цар чорнага павука - дня два трасецца. Думае, што навіну жудасную яму хтосьці прынясе.

Калі надыходзіў трынаццаты лік любога месяца - цар наогул зачыняўся ў сваіх палатах і нават аканіцы замыкаў. Баяўся, што няшчасце ў замак прыйдзе.

Няхай ні адзін з страхаў не спраўджваўся, аднак цар усё роўна заставаўся забабонным і прыметабоязным.

Аднойчы прыйшоў у галаву цара сон: быццам бы ў царства ні з таго ні з гэтага прыляцелі іншапланецяне, яго самога зняволілі ў крэпасць пад сем замкоў, а ў дзяржаве пачалі свае парадкі наводзіць:

- зачынілі ўсе калгасы на тэрыторыі царства;
- усім царскім падданкам пачалі плаціць(?) заробкі;
- у крамах па ўсёй тэрыторыі сталі прадаваць якасныя прадукты, якія доўга не псаваліся;
- сваім высокадакладным абсталяваннем вызначылі, што амаль уся тэрыторыя царства непрыдатная для жыцця (прытым, нават для іншапланецян), забруджаная нейкай "радыяцыяй";
- на карысць жыхароў царства прышэльцы пачалі раптам чысціць зямлю і паветра, абяцалі пры гэтым павялічыць працягласць жыцця царскіх падданых;
- усім жыхарам царства пры ўмове, што яны перастануць быць служкамі цара, прышэльцы паабяцалі даць ва ўласнасць зямлю.

Ад кашмару прачнуўшыся, цар тут жа запаў у дэпрэсію. Такога хамства і такога нахабства цар не чакаў ні ад кого - нават ад прышэльцаў, нават у сне.

Па дадзеных пудзілы гарохавага, хуткім часам цар плануе запусціць у Космас адну з веж свайго замка.

Цар перакананы, што, акрамя яго царства, у Сусвеце ёсць яшчэ і іншыя і што ён не з гэтай планеты. Яго святы абавязак - вярнуцца на Радзіму, а тамака сабраць дружыну і з яе дапамогай абвясціць вайну ўсім прышэльцам. Галасаванне, праведзенае ў замку цара, паказала, што ўсе з гэтым згодны.

Як толькі вежа пакіне атмасферу, у царстве будзе неадкладна ўсталяваны дадатковы будынак. Па цэнтры замка на вышыні 420 метраў усталююць велізарны глобус, на якім каляровымі крэйдамі з розных бакоў будзе намаляваная карта ўсяго царства.

Аднак некаторыя з царскіх падданых лічаць афіцыйную версію блізкага запуску ўсяго толькі прыкрыццём. На самай справе цар нібыта запланаваў глабальнае сачэнне і праслухоўванне. У Космасе прама з вежы цар будзе праслухоўваць усе гутаркі сваіх падданых, а таксама прагледаць іх макушкі. Новы сродак назірання прымусіць усіх, хто жыве і працуе ў царстве, яшчэ лепш выконваць свае службовыя абавязкі і ніколі не хлусіць.

**P.S.**

Мінуў год, прышэльцы так і не прыляцелі, а цар - не адправіўся ў Космас. Кіраўнік па-ранейшаму забабонны. Напрыдумляў яшчэ больш страхаў, чым раней.

На дадзены момант у царстве выявілася даволі дзіўная з'ява: мясцовыя жыхары на працягу тыдня бачаць па начах над замкам цара нейкія лятучыя агеньчыкі. Што гэта - ніхто не ведае.

У самім замку незразумела адкуль з'явілася раптам велізарная колькасць чорных катоў і павукоў. І таксама незразумела куды знікла. Што гэта за знак - таксама ніхто не разгадаў.

Цар баязліва чакае заўтрашняга дня...

# Уфологи ищут в горе на юге Франции "гараж пришельцев"

*Daily Mail*

**По мнению искателей внеземного разума, гора Бугараш в департаменте Од на юго-западе Франции - это одно из нескольких мест на Земле, которое уцелеет во время конца света, передает таблоид Daily Mail.**

Есть мнение, что "под горой в ожидании конца света коротают время пришельцы. [В Судный день] они улетят, забрав с собой нескольких счастливчиков из людей". Поскольку согласно "древнему календарю майя" Армагеддон наступит 21 декабря 2012 года, небольшая деревушка, расположенная у подножия горы, в настоящее время страдает от наплыва энтузиастов.

Староста Жан-Пьер Делор поведал, что чужаки появляются в деревне на протяжении последних 10 лет, с тех пор, как один из местных рассказал, что "видел пришельцев и слышал доносящийся из-под горы гул их космических кораблей". Теперь в этих местах можно наблюдать "поющих и медитирующих лежа людей", появились предложения о продаже недвижимости, организации туристических поездок и проведении уфологических ликбезов. Для борьбы с нашествием охотников за НЛО Делор пригрозил вызвать армию: "Если завтра сюда явятся десять тысяч человек, наша деревня, в которой проживают 200 человек, этого не вынесет", - сказал он в интервью The Daily Telegraph.

**Наш Магілёў**

**Незалежнае грамадска - палітычнае выданне Горада**
**Выдавец Андрусь Волкаў, дырэктар Вітольд Няўрыда.**
**Надрукавана на ксераксе ў горадзе Магілёве. Наклад: 299 ас.**
**e-mail: nash_mogilev@tut.by**